# Стадыён

*Фізкультурна-спартыўны выпуск "НГ"*

## Ці патрэбныя грамадству спецыялісты па аздараўленню?

### Статыстыка сведчыць — сёння здаровымі ў Беларусі з'яўляюцца прыкладна 10 працэнтаў дзяцей

Не ведаю, як у вас, а ў мяне адразу напрошваецца простае арыфметычнае рашэнне, і атрыманая ў выніку лічба 90 – гэта не што іншае, як працэнтная колькасць дзяцей з адхіленнямі ў стане здароўя. Сітуацыя – больш чым складаная, менавіта таму ў цэнтры маёй увагі аказалася аздараўленчая фізічная культура. Пагадзіцеся, само гучанне абнадзейвае. Так называецца адзін з факультэтаў Акадэміі фізічнага выхавання (ф-т аздараўленчай фізічнай культуры і турызму), які быў створаны ў 1996 годзе, і сёння ўжо налічвае пяць напрамкаў сваёй працы. Некаторыя са спецыялізацый паспелі набыць пэўную вядомасць: аздараўленчая фізічная культура, адаптатыўная фізічная культура, фізічная рэабілітацыя. А ў гэтым годзе тут чакаюць першага выпуску спецыялістаў па аздараўленчай фізічнай культуры для дашкольных устаноў. У перспектыве плануецца рыхтаваць спецыялістаў па эргатэрапіі для працы з інвалідамі, людзьмі, якія маюць неабходнасць у змяненні віду дзейнасці. (Слова эргатэрапія мае больш ужывальны эквівалент – працатэрапія). Уводзяцца таксама новыя спецыяльнасці, такія, як менеджмент у спорце, менеджмент у турызме, спартыўная рэжысура, якая мае сваёй мэтай арганізацыю спартыўных мерапрыемстваў, масавых гулянняў, спартыўны і рэкрэацыйны турызм. Спецыяльнасці, безумоўна, перспектыўныя і, як здаецца, неабходныя грамадству. Але ці з'яўляюцца яны запатрабаванымі? І ўвогуле: ці магчыма сродкамі аздараўленчай фізічнай культуры хаця б часткова выправіць сітуацыю? А калі магчыма, дык якім чынам? Аб гэтым і многім іншым разважаюць кіраўнікі факультэта дэкан ***Наталія Міхайлаўна Машарская*** і яе намеснік ***Наталля Пятроўна Максіменка.***

**Наталія МАШАРСКАЯ:**

– Адным з самых запатрабаваных з'яўляюцца сёння спецыялісты па фізічнай рэабілітацыі. Справа ў тым, што мы прымаем на гэтую спецыялізацыю людзей з базавай медыцынскай адукацыяй, да таго ж у нас існуе дамоўленасць з Міністэрствам аховы здароўя аб такой падрыхтоўцы, таму нашы спецыялісты маюць магчымасць працаўладкавацца ў разнастайных медыцынскіх установах. Спецыялісты па аздараўленчай фізічнай культуры і турызму запатрабаваны Міністэрствам адукацыі, яны ідуць працаваць у навучальныя ўстановы.

Як ні дзіўна, але пакуль незапатрабаванымі аказаліся спецыялісты па фізічнаму выхаванню дашкольнікаў. З Міністэрства адукацыі прыйшла толькі адна заяўка ў дзіцячы садок Жыткавіцкага раёна. Трэба зазначыць, што заяўкі прыйшлі і з Гродзенскай вобласці, але адправіць туды нашых выпускнікоў няма магчымасці – узнікаюць праблемы з месцам жыхарства. І ўсё ж, аналізуючы сітуацыю, хочацца знайсці адказ на пытанне: чаму так атрымалася? Канкурэнцыю нам складаюць педагагічныя ўстановы, якія рыхтуюць выхавальнікаў з дадатковай спецыяльнасцю фізічная культура. На нашу думку, выпускнікі Акадэміі фізічнага выхавання на ўзровень вышэй, яны падрыхтаваны менавіта для аздараўленчай працы з дашкольнікамі, і, улічваючы сённяшнюю статыстыку, гэта проста неабходна нашым дзецям. Магчыма, такая сітуацыя выклікана тым, што большасці дашкольных устаноў яшчэ невядома, што ў нас ёсць такая спецыяльнасць. Усё ж такі гэта наш першы выпуск.

З мэтай падкарэкціраваць здароўе дзіцяці сродкамі фізічнай культуры ў школе ствараюцца спецмедгрупы. Падрыхтоўкай спецыялістаў для працы з такімі групамі займаецца кафедра лячэбнай фізкультуры нашай акадэміі. Але, як правіла, нагрузкі для такога выкладчыка ў навучальнай установе не хапае, і ён працуе паралельна і ў спецмедгрупах, і са здаровымі дзецьмі.

Існуе прапанова аб'яднаць школьныя спецмедгрупы ў адной навучальнай установе. Магчыма, у гэтым ёсць свае плюсы. Але ўявіце, як гэта паўплывае на школьны расклад, ды і ці зручна гэта будзе для вучняў? У ВНУ ўсё нашмат прасцей, там студэнты дыферэнцыруюцца па групах захворванняў.

**Наталля МАКСІМЕНКА:**

– Для працы са спецмедгрупамі неабходны спецыяльныя веды. Так, напрыклад, выпускнікі нашай акадэміі, зыходзячы з дыягназу, пастаўленага медыкамі, могуць распрацоўваць спецыяльныя комплексы практыкаванняў для дзіцяці з пэўнай хваробай. Хаця не так даўно для працы са спецмедгрупамі настаўнікам фізічнай культуры дастаткова было скончыць двухмесячныя курсы.

І ўсё ж калі больш грунтоўна падысці да аналізу праблемы здароўя дзяцей, падлеткаў, моладзі, то тут, як казаў Казьма Пруткоў, "зри в корень". На мой погляд, школа павінна не проста працаваць над фарміраваннем здаровага ладу жыцця, што, дарэчы, немалаважна, але даваць веды, уменні і навыкі будучым бацькам, як развіць у сабе, а потым і ў сваім дзіцяці "фізічную культуру асобы". На жаль, падобныя веды, якія вучні атрымліваюць, сёння спрошчаныя, іх недастаткова.

**Наталія МАШАРСКАЯ:**

– Вельмі часта настаўнік не закладвае ў свядомасць вучняў, што фізічная культура – гэта працяглы, бесперапынны працэс. Ды і як тут закладзеш, калі ў фізічным выхаванні школьнікаў не заўсёды прасочваецца сістэма? Пажадана, каб была большая пераемнасць паміж навучальнымі праграмамі ДДУ і агульнаадукацыйнай школы.

У апошні час нярэдка гучыць думка аб фарміраванні здаровага ладу жыцця не толькі на ўроках фізкультуры, але і праз іншыя прадметы. Меркаванне слушнае, але... Не так даўно давялося пагартаць падручнік па прадмету "Чалавек і Грамадства" для трэцяга класа. У канцы аднаго з параграфаў чытаю пытанне: "Што вы адчуваеце пасля першай зацяжкі цыгарэтнага дыму?" Дзеля таго, каб на яго адказаць, дзіця павінна паспрабаваць зацягнуцца. Што ж, можа будзем даваць такія хатнія заданні...

**Наталля МАКСІМЕНКА:**

– А на мой погляд, фарміраваць тое, што мы называем "фізічнай культурай асобы", можна ў большай ступені на ўроках фізкультуры. Толькі ў ідэале настаўнік павінен суправаджаць каментарыем кожнае практыкаванне, якое выконвае вучань. Напрыклад, калі вучань падцягваецца, настаўнік тлумачыць, якія мышцы задзейнічаны, для чаго гэта трэба... Не ведаюць вучні, навошта на працягу адзінаццаці гадоў згодна праграме па фізкультуры вывучаецца кулёк. Бо настаўнік не тлумачыць, што гэта робіцца, каб навучыць чалавека групіравацца пры падзенні і не атрымаць траўму. Інакш кажучы, практыкаванні выконваюцца вучнямі без усведамлення іх прызначэння.

Сёння на факультэце аздараўленчай фізкультуры і турызму ў межах павышэння спартыўнага майстэрства студэнтаў праводзяцца заняткі па У-ШУ, плаванню, скалалазанню, аэробіцы, атлетычнай гімнастыцы, більярду, агульнай фізічнай падрыхтоўцы. Атрыманыя веды і ўменні выпускнікі факультэта потым могуць выкарыстоўваць і ў сваёй далейшай працы. А паколькі цікавасць да гэтых відаў спорту існуе і ў гарадскога насельніцтва, то на факультэце арганізуюцца заняткі для ўсіх жадаючых, што дазваляе не толькі папоўніць тутэйшую казну, але і папулярызуе здаровы лад жыцця.

**Наталля АЛЁХІНА.**

Турызм

## Дарогі чакаюць...

*Усё бліжэй заканчэнне навучальнага года. У школьнікаў і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў з'явіцца шмат вольнага часу, і ўзнікне пытанне, чым яго заняць. Бо піянерскія летнікі фактычна перасталі функцыянаваць, прафільныя летнікі для моладзі шырокага развіцця яшчэ не атрымалі. Да таго ж у летні перыяд праводзяцца рамонтныя работы ў многіх адукацыйных установах, якія для вучняў аказваюцца закрытымі і недаступнымі. Чым жа заняць сваіх дзяцей - праблема, што хвалюе многіх бацькоў. У гэтых умовах у крыху лепшым становішчы апынулася сельская моладзь. Яе пасільная праца на вясковым падвор'і запатрабавана ва ўсе часы.*

*Значная частка навучэнскай моладзі летам застаецца ў гарадах, да таго ж не занятая карыснымі справамі - на гэтай глебе колькасць антыграмадскіх учынкаў сярод непаўналетніх павялічваецца. Аднак тут не ўсё так проста, як можа падацца на першы погляд...*

### Рамантыка для падлеткаў

Трэба прымаць пад увагу той факт, што жаданне прыгод, імкненне выпрабаваць сябе ў цяжкіх умовах, справіцца са страхам, сказаць сабе "Я магу!" - якасці, уласцівыя большасці хлапчукоў, ды і дзяўчынак у падлеткавым узросце. Праўда заключаецца і ў тым, што ў падлетка, якому няма чаго рабіць, гэтыя цудоўныя памкненні часцей за ўсё прыводзяць да антыграмадскіх учынкаў, прыгоды набываюць крымінальны характар: хлапчукі "ўразумелі", што яны не баяцца цемры і могуць, напрыклад, на цёмнай вуліцы напалохаць прахожага, увязацца ў бойку, разбіць шыбу, залезці ў прадуктовую палатку і г.д. У выніку экстрэмальныя "подзвігі" даводзіцца тлумачыць у праваахоўных органах, а там яны не толькі пазбаўляюцца рамантыкі, але могуць і негатыўна паўплываць на будучае жыццё.

Як жа і чым заняць падлетка, як захапіць яго карыснай справай? Існуе шмат форм і метадаў. І адным з іх з'яўляецца дзіцячаюнацкі турызм. Гэта выдатная справа для тых, хто шукае прыгод, хто хоча набыць упэўненасць у сваіх сілах, праявіць смеласць, знаходлівасць, уменне не губляцца нават у самай складанай абстаноўцы і хутка знаходзіць выйсце з яе.

Пры ўмелым кіраўніцтве ў паходах і падарожжах ствараюцца ўмовы для паўнацэннага выкарыстання вольнага часу, развіцця інтарэсаў і талентаў дзяцей і падлеткаў.

Разам з тым фарміраванне станоўчых якасцей асобы сродкамі турызму і краязнаўства залежыць ад многіх фактараў. Напрыклад, поспех турысцкага паходу або падарожжа шмат у чым вызначаецца пастаўленай мэтай, выбарам маршруту, фарміраваннем турысцкай групы, прытрымліваннем рэжыму дня ў паходзе, выкананнем мэтавага задання, афармленнем матэрыялаў, сабраных у паходзе, і г.д. Адным з галоўных фактараў з'яўляецца асоба кіраўніка, яго стаўленне да дзяцей, да справы.

### Лідэраў — у памочнікі!

Вопытныя педагогі ведаюць, што турысцкі паход - гэта даволі складаны вучэбна-выхаваўчы працэс, напружаная праца па выхаванню і навучанню дзяцей і падлеткаў. Важны момант выхаваўчай работы ў турысцкай групе - апора кіраўніка на актыў. Таму мэтазгодна стварыць савет з ліку найбольш актыўных, энергічных і ініцыятыўных удзельнікаў для вырашэння штодзённых арганізацыйных пытанняў. Напрыклад, у час паходу на савеце падводзяцца вынікі дня, абмяркоўваюцца планы на наступны дзень, пытанні забеспячэння прадуктамі харчавання, маральнага і фізічнага стану ўдзельнікаў, станоўчыя і адмоўныя моманты ў іх дзейнасці.

Маладым кіраўнікам неабходна памятаць, што ў турысцкім паходзе могуць узнікнуць непрадбачаныя сітуацыі, а з боку асобных "турыстаў" - непрадказальныя ўчынкі. Кіраўнік павінен пазбягаць паспешлівых рашэнняў. Калі назіраецца парушэнне дысцыпліны, трэба падкрэсліць, што такія паводзіны ўдзельніка пагражаюць зрывам паходу і могуць прынесці шкоду ўсёй групе. У такім выпадку, не выказваючы свайго меркавання, кіраўнік можа паставіць перад саветам пытанне, як быць далей, тактоўна падказаць правільную ацэнку фактаў. Меры ўздзеяння на парушальніка павінны адпавядаць яго ўчынку. У асобных выпадках неабходна вынесці пытанне на абмеркаванне ўсёй групы. Пры гэтым спачатку трэба высветліць меркаванне ўдзельнікаў паходу і членаў савета.

### Канфліктныя сітуацыі, або Размовы ля вогнішча

У стварэнні цёплай, сяброўскай атмасферы ў турысцкай групе важную ролю адыгрываюць асабістыя гутаркі кіраўніка з дзецьмі. Не ўсе падлеткі лёгка пераносяць цяжкасці паходнага жыцця, адарванасць ад бацькоў. У такіх выпадках неабходна бацькоўская ласка, сяброўскі клопат з боку кіраўнікоў. Яны павінны высветліць, што хвалюе падлетка, падбадзёрыць яго, супакоіць, усяліць аптымізм. Вялікую дапамогу могуць аказаць вячэрнія гутаркі ля вогнішча, падчас якіх дзеці і падлеткі атрымаюць магчымасць асэнсаваць убачанае і зробленае. Лепш за ўсё праводзіць іх кожны вечар. Тут могуць падводзіцца вынікі дня, выказвацца заўвагі і пажаданні адносна работы кухараў, дзяжурных і турыстаў-пачаткоўцаў. Нярэдка менавіта ля вячэрняга вогнішча, у шчырай размове прасцей аналізаваць канфліктныя сітуацыі, якія могуць узнікаць паміж асобнымі падлеткамі. Для гэтага важна, каб кіраўнік быў уважлівым да ўсіх удзельнікаў, правільна разумеў прыроду канфліктаў і знаходзіў справядлівы, тактоўны метад іх вырашэння. Падчас разгляду канфлікту кіраўнік не павінен аднаго прыніжаць, а другога ўзвышаць. Важна вызначыць прычыну. Магчыма, гэта проста нявопытнасць, няўважлівасць, няведанне, неасцярожнасць - такое можа здарыцца з кожным.

Вопытныя педагогі-кіраўнікі паходаў заўсёды пазбягаюць крайніх мер, а таксама не дапускаюць у адносінах да ўдзельнікаў паходу частых натацый і павучанняў, вымоў і прэтэнзій, лаянкі, пакаранняў і пагроз, загадаў і забарон, нецярпімасці і раздражняльнасці, кпінаў, дачасных і канчатковых высноў.

Аднак калі ўсе меры вычарпаны і няма вынікаў, парушальніка можна выключыць з паходу, але зрабіць гэта трэба без знявагі, паклапаціцца пра яго бяспеку. Удумлівага падыходу патрабуюць абставіны, калі ў асобных турыстаў-удзельнікаў праяўляецца зазнайства, нясціпласць, непаважлівае стаўленне да таварышаў. У такіх выпадках самы дзейсны прыём - развянчаць зазнайку, што выкліча ў яго прыкрасць, закране самалюбства, прымусіць паглядзець на сябе збоку. На зазнайку-свавольніка часам эфектыўна ўздзейнічае ўяўная абыякавасць: кіраўнік паходу і ўдзельнікі не рэагуюць на яго выхадкі, і ён супакойваецца.

### Пахвала — рэч сур'ёзная

Неабходна таксама шырока выкарыстоўваць меры заахвочвання, бо да пахвалы вельмі чуйныя цяжкія падлеткі. Гэта ў большасці энергічныя людзі, якія жадаюць быць лідэрамі, хочуць, каб іх заўважылі. З імі трэба паводзіць сябе так, як з фізічна больш развітымі - часцей даваць розныя даручэнні, аказваць давер. І калі вы змаглі зацікавіць іх працай і яны ўсё выканалі як належыць - пахваліце іх. Вельмі хутка вы ўбачыце, што многія з іх становяцца вашымі лепшымі памочнікамі не толькі ў паходзе, але і ў школе.

Важна, каб у турысцкай групе было сапраўднае, а не фармальнае самакіраванне і самаабслугоўванне. Асобныя кіраўнікі імкнуцца ўсе пытанні вырашаць самастойна, часам самі ставяць палаткі, гатуюць ежу, добраўпарадкоўваюць тэрыторыю і г.д. Разам з тым самакіраванне можа быць эфектыўным толькі пры ўмелай арганізацыі. Гэта арганізаваны рух турысцкай групы на маршруце, размеркаванне месцаў у вагоне цягніка, дзяжурства на біваку, выкананне ўсіх правілаў бяспекі, адносіны да навакольнага асяроддзя і г.д. Калі абавязкі існуюць толькі фармальна і фактычна ўсё вырашае і робіць кіраўнік, вялікай карысці ад такога самакіравання і самаабслугоўвання не будзе.

Аднак нельга ўпадаць і ў другую крайнасць - адыходзіць ад справы, пускаць усё на самацёк. Кіраўнік павінен быць педагогам, дарадчыкам, кантралёрам, але не пераходзіць рысу, якая разбурае адказнасць за дзяцей, за даручаную справу.

### Усе — на спаборніцтвы

Важным выхаваўчым момантам у турысцкім паходзе з'яўляецца прынцып спаборніцтва. У школе дзеці прывыклі да таго, што іх дзейнасць ацэньваецца. Таму кіраўніку неабходна прадумаць сістэму ацэнкі ў паходзе, і важна, каб у гэтым прынялі ўдзел самі падлеткі. Падчас спаборніцтваў, конкурсаў і гульняў развіваюцца такія якасці, як вытрымка і кемлівасць, ініцыятыўнасць і знаходлівасць. Яны прывучаюць усебакова ацэньваць абставіны і прымаць правільнае рашэнне.

У паходзе трэба праводзіць разнастайныя конкурсы для набыцця і замацавання турысцкіх навыкаў (укладка рукзака, устаноўка палаткі і інш.), эстафеты, пераадоленне паласы перашкод, спартыўныя гульні з мячом, спаборніцтвы па шашках, шахматах, арыентаванню на мясцовасці і г.д. Карысна праводзіць віктарыны рознай тэматыкі, конкурсы знаўцаў прымавак і загадак, конкурс на лепшы аповед, конкурс выканаўцаў песень і прыпевак.

Пераможцы павінны быць адзначаны. Прызы могуць быць і самаробнымі: жартоўная лялька з шышак і травы, знойдзены прыгожы каменьчык і інш.

### Турыстычны дзённік як люстэрка вандроўкі

У кожным турысцкім паходзе павінна быць вызначана мэта, і дзейнасць кіраўніка групы павінна быць накіравана на яе выкананне. Пры гэтым вялікую ўвагу трэба ўдзяляць наведванню і вывучэнню культурна-гістарычных аб'ектаў, знаёмству з прыроднымі помнікамі, падзеямі і з'явамі. Абавязкова трэба рабіць адпаведныя запісы, весці дзённік паходу. Ён з'яўляецца адным з асноўных дакументаў падарожжа і павінен адлюстраваць выкананне плана (задання) паходу, маршрут, фізіка-геаграфічную характарыстыку раёна, новыя звесткі, атрыманыя ў час вандроўкі, непасрэдныя ўражанні ўдзельнікаў, іх пошукі, цяжкасці ў паходзе, грамадска карысную работу. Змест дзённіка падмацоўваецца фотаздымкамі, схемамі, чарцяжамі, малюнкамі.

Першы аркуш паходнага дзённіка - тытульны. Ён запаўняецца прыгожа, з выдумкай. На ім указваюцца тэма паходу, назва атрада, дата і маршрут. Другі аркуш павінен раскрываць змест задання. Трэці займае схема маршруту з указаннем аб'ектаў вывучэння, цікавых знаходак, днёвак. На чацвёртым падаецца спіс удзельнікаў падарожжа з указаннем абавязкаў кожнага.

З пятай старонкі пачынаецца тэкст дзённіка. Запісы робяцца кожны дзень. У іх адзначаюцца пройдзеная адлегласць і месцы прывалаў; дарожныя назіранні, правядзенне краязнаўчых работ; выкананне плана; сустрэчы, гутаркі; арганізацыя адпачынку групы; агульны фізічны стан і настрой удзельнікаў; усе значныя, цікавыя падзеі, якія адбыліся за дзень. Апісанне паходу можна зрабіць у выглядзе нарысаў па асобных тэмах.

Для вядзення дзённіка неабходна выдзеліць з групы "карэспандэнта", які б валодаў здольнасцю дакладна і выразна перадаваць уражанні ад падарожжа.

Матэрыялы, атрыманыя ў паходах і вандроўках, папоўняць экспазіцыі школьных музеяў.

Юным падарожнікам, іх кіраўнікам трэба памятаць, што справаздача аб турысцкім паходзе (падарожжы) - гэта адна з форм карыснай дзейнасці ўсёй турысцкай групы, дакумент, па якому ацэньваецца якасць падарожжа. Справаздача павінна мець дзелавы і дакументальны характар. Добра зробленая справаздача можа быць каштоўным дапаможнікам для іншых турысцкіх груп, якія захочуць прайсці па такому ж маршруту. Таму кіраўнікі паходаў павінны тлумачыць удзельнікам, што ў паход ідуць не толькі дзеля свайго задавальнення, але і для таго, каб разведаць новыя шляхі для сваіх таварышаў, захапіць іх цікавымі маршрутамі.

Турысцкія паходы па роднаму краю дапамагаюць педагогу зрабіць больш эфектыўным працэс навучання, даюць магчымасць школьнікам папоўніць свае веды, адчуць радасць пазнання, лепш зразумець гістарычныя падзеі і прыродныя з'явы.

**Мікалай ГЕРАСІМЕНКА.**

## Тэхнічная ВНУ са спартыўным ухілам

***Пра фізічны стан і здароўе студэнтаў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, ролю фізічнай культуры і спорту ў фарміраванні здаровага ладу жыцця расказвае заслужаны работнік фізічнай культуры і спорту Рэспублікі Беларусь, доктар педагагічных навук, загадчык кафедры фізічнага выхавання і спорту БДПА Іван Бельскі.***

**- Іван Уладзіміравіч, вось ужо два гады акадэмія з'яўляецца самай спартыўнай ВНУ рэспублікі ў агульным заліку. Што і казаць, спорт у БДПА папулярны. У гэтым, безумоўна, вялікая заслуга рэктарата, кафедры. Але што можна сказаць пра здароўе студэнтаў?**

– У 2001 годзе паліклініка №33 абслужыла 15668 студэнтаў акадэміі. Па выніках медыцынскага агляду студэнтаў першага курса высветлілася, што толькі 40,9 працэнта першакурснікаў адносяцца да групы "здаровыя", 47,9 працэнта маюць адхіленні ў стане здароўя і 11,2 працэнта – хранічна хворыя. Такім чынам, да нас прыходзяць толькі чацвёра здаровых маладых людзей з кожных дзесяці. Акрамя таго, вядома, што важнай часткай агульнага фізічнага стану студэнтаў з'яўляецца іх псіхічнае здароўе. Вынікі праведзенага тэсціравання сведчаць, што 11,5 працэнта нашых студэнтаў маюць высокі ўзровень трывожнасці, 79 – сярэдні ўзровень, і толькі 9,5 працэнта – нізкі. Пры гэтым у дзяўчат ён больш высокі – 20 працэнтаў, а ў юнакоў – 6 працэнтаў. Паказчыкі агрэсіўнасці размеркаваліся наступным чынам: пачуццё віны (агрэсія, накіраваная ўнутр сябе, згрызоты сумлення) у юнакоў – 45 працэнтаў, у дзяўчат – 65 працэнтаў; негатывізм (апазіцыйная манера паводзін, накіраваная супраць аўтарытэтаў і кіраўніцтва) у юнакоў – 42 працэнты, у дзяўчат – 50. Гэта сведчыць пра тое, што псіхічнае здароўе многіх студэнтаў не ў поўнай меры адпавядае медыцынскім нормам. 35,7 працэнта маладых людзей прызналіся, што заняткі па фізкультуры не выклікалі ў іх цікавасці яшчэ ў школе.

Характарыстыка стану здароўя нашых студэнтаў была б няпоўнай, калі не правесці супастаўленне з іншымі ВНУ Мінска. Па агульнай колькасці захворванняў на 1000 студэнтаў мы знаходзімся на восьмым месцы (781 чалавек). Як бачым, у гэтым сэнсе ў нашай акадэміі, як і ў іншых ВНУ, не ўсё добра.

**- Сёння ў інтарэсах захавання і ўмацавання здароўя студэнтаў цяжка пераацаніць ролю фізічнай культуры і спорту. Як жа арганізавана фізічнае выхаванне ў політэхнічнай акадэміі?**

– Усе студэнты, з улікам іх спартыўных паказчыкаў, размяркоўваюцца па трох вучэбных аддзяленнях: асноўнаму, спартыўнаму і спецыяльнаму. У групы асноўнага аддзялення ўключаны каля 63 працэнтаў усіх студэнтаў, на спартыўным аддзяленні – прыкладна 20 працэнтаў, каля 14 працэнтаў студэнтаў займаюцца на спецаддзяленні.

Важную ролю ў аздараўленні студэнтаў адыгрывае пераход на арганізацыю заняткаў па інтарэсах з арыентацыяй на спецыялізацыю па аднаму з відаў спорту.

Сучасная сістэма дазваляе ахапіць фізічным выхаваннем усіх без выключэння студэнтаў і прадаставіць кожнаму з іх магчымасць займацца аздараўленнем. Эфектыўная дзейнасць вучэбнага спартыўна-аздараўленчага цэнтра пасадзейнічала таму, што многія студэнты ўмацоўваюць сваё здароўе ў санаторыі-прафілакторыі.

**- Многія віды спорту пачынаюць свой шлях па краіне са сцен беларускага "палітэха". І сёння рэктар БДПА прафесар Барыс Хрусталёў, які сам актыўна займаецца спортам, аказвае неабходную дапамогу па ўмацаванню матэрыяльна-тэхнічнай базы спорту ў інтарэсах здароўя студэнтаў і супрацоўнікаў. Невыпадкова БДПА называюць тэхнічнай ВНУ са спартыўным ухілам...**

– Гэта сапраўды так. Спартыўна-матэрыяльная база БДПА – універсальная. У нас дзейнічаюць 18 спартыўных залаў, 2 стралковыя ціры, турыстычны клуб, 50-метровы плавальны басейн, стадыён, лыжная база і інш. Сёлета ў былым памяшканні сталовай №4 адкрыты яшчэ 3 спартыўныя залы.

Добрая матэрыяльная база, наяўнасць вопытных трэнераў і выкладчыкаў, штогадовая ўнутрыакадэмічная спартакіяда, якая ўжо стала традыцыйнай, дазволілі БДПА па выніках 2000 і 2001 гадоў заняць першае месца ў сваёй групе на рэспубліканскіх студэнцкіх гульнях, у якіх мы ўдзельнічаем па 27 відах спорту. Значных поспехаў дабіліся нашы спартсмены на Сусветнай універсіядзе ў Пекіне па лёгкай атлетыцы. Павышэнню майстэрства студэнтаў садзейнічаюць агляды на званне лепшага трэнера, лепшага выкладчыка па фізічнай культуры, лепшага спартсмена года, што праводзяцца ў акадэміі.

Хачу адзначыць, што спортам займаюцца і кіраўнікі. Напрыклад, дэканы аўтатрактарнага факультэта і факультэта менеджменту і прадпрымальніцтва Мікалай Капусцін і Андрэй Цемічаў гуляюць у валейбол. Рэктарат акадэміі на чале з Барысам Хрусталёвым рэгулярна можна бачыць у спартыўных залах і на дарожках басейна.

**- Іван Уладзіміравіч, усё гэта, вядома, можа павысіць цікавасць да фізічнай культуры і спорту, павялічыць колькасць студэнтаў і супрацоўнікаў, якія клапоцяцца пра ўмацаванне свайго здароўя. Але ж многія студэнты пражываюць у інтэрнатах. Ці створаны там адпаведныя ўмовы для здаровага ладу жыцця?**

– На нашу думку, у акадэміі ёсць усе неабходныя ўмовы для аздараўлення ў інтэрнатах, у якіх жывуць больш як сем тысяч чалавек. У кожным з інтэрнатаў ёсць інструктар па фізкультуры і спорту. Спартзалы абсталяваны ўсім неабходным інвентаром. Праводзяцца спартакіяды. Побач з інтэрнатамі пабудаваны спартыўныя пляцоўкі. Асаблівая ўвага ўдзяляецца арганізацыі спартыўных мерапрыемстваў у выхадныя і святочныя дні. Думаю, што студэнтам не даводзіцца сумаваць.

**- У фарміраванні здаровага ладу жыцця асаблівая роля адводзіцца інфармацыі. Што робіцца ў гэтым напрамку?**

– Скажу як практык, як вучоны. Сёння, як і раней, без прапаганды здаровага ладу жыцця вельмі цяжка "дастукацца" да свядомасці маладых людзей. Гэтыя праблемы мы неаднаразова абмяркоўвалі з прарэктарам па вучэбнай рабоце Канстанцінам Баландзіным і дакладна вызначылі кола задач: стварэнне відэафільмаў, прысвечаных нашым лепшым спартсменам, камандам, трэнерам. Шырока выкарыстоўваецца і такая форма прапаганды, як сустрэчы з лепшымі спартсменамі БПІ-БДПА, кіраўнікамі спартыўных ведамстваў, ветэранамі спорту. Пастаянна ідзе працэс папаўнення банка даных перадавых тэхналогій у справе аздараўлення студэнцкай моладзі, напрацаваных у іншых навучальных установах, ствараюцца спецыяльныя метадычныя дапаможнікі. Цяпер група вучоных кафедры працуе над адпаведным падручнікам.

**- Іван Уладзіміравіч, безумоўна, у "палітэху" фізічная культура і спорт у пашане сярод студэнтаў і супрацоўнікаў. Але на сённяшніх дасягненнях, як мне здаецца, вы спыняцца не збіраецеся, ці не так?**

– Без пастаяннай мадэрнізацыі працэсу фізічнага выхавання, без пошуку найбольш мабільных і эфектыўных форм уздзеяння на свядомасць маладых людзей гаварыць пра аздараўленчую накіраванасць фізкультуры і спорту даволі праблематычна. У ходзе рэфармавання фізічнага выхавання мы зразумелі неабходнасць удасканалення арганізацыі кіраўніцтва кафедры. Пры гэтым магчымы яе падзел на дзве кафедры або павелічэнне колькасці вызваленых намеснікаў загадчыка. На думку рэктарата, да 1 верасня 2002 неабходна вырашыць пытанне аб стварэнні інжынерна-спартыўнага факультэта. Гэта дазволіла б сканцэнтраваць намаганні і павысіць планку аздараўлення студэнтаў і супрацоўнікаў.

**- Што б Вы хацелі пажадаць маладым людзям?**

– Скажу словамі папулярнага паэта Эдуарда Асадава: "Не трэба здавацца, людзі!" І ад сябе. Калі ў XX стагоддзі мы навучыліся паміраць, дык у XXI стагоддзі трэба навучыцца жыць.

**Гутарыў Анатоль КОНАНАЎ.**

## Палёт на мятле і скокі праз вогнішча

У сапраўднае свята для сваіх вучняў ператварылі Дзень здароўя настаўнікі 159-й сярэдняй школы Фрунзенскага раёна горада Мінска. Падчас спаборніцтваў усім удзельнікам давялося ператварыцца ў "дзевяціборцаў". Поезд пад назвай "Здароўе" ішоў менавіта праз такую колькасць "станцый". Тут было ўсё: бег у мяшках, скокі праз "вогнішча", эстафета з мячом, "палёт на мятле" і г.д.

**Аляксандр ГАЛЬКЕВІЧ, фота аўтара.**

# Настаўнік - як эканаміст: павінен усё пралічваць

***Новыя тэхналогіі. Ужо звыклае паняцце ў сучаснай школе. Настаўнікі аб'ядноўваюцца ў творчыя групы, распрацоўваюць свае праграмы, курсы, прымерваюць на сябе ўжо вядомае. Камусьці вельмі пасуе новая "вопратка", а камусьці не. Як зрабіць правільны выбар?***

***"Кожны настаўнік павінен выбраць тое, што больш адпавядае яго чалавечай сутнасці, больш падыходзіць яму. Калі я правяла ўжо нейкі ўрок, то так, як я яго дала, ніхто не зможа даць. Усё залежыць ад асобы настаўніка, яго эмацыянальнага складу".***

Гэтае меркаванне належыць вопытнай настаўніцы (яе педагагічны стаж складае 35 гадоў) пачатковых класаў сто дзевяноста восьмай пачатковай школы сталіцы Любові Нілаўне Фраловай. І, думаю, аднадумцаў у яе шмат. Урок любога настаўніка – адзіны і непаўторны, бо з'яўляецца адлюстраваннем не толькі яго настаўніцкай сутнасці, але і чалавечай (характар, тэмперамент, адносіны да навакольнага свету). Урокі Любові Нілаўны – эмацыянальныя, насычаныя, рухомыя і творчыя, як, дарэчы, і яна сама.

– На ўроку трэба тварыць, а працаваць па ўжо гатовых, прычым чужых, распрацоўках – прымітыўна і неэфектыўна, – гаворыць Любоў Нілаўна. – Я так не магу. Нейкі элемент, калі ён цікавы, можна пазычыць. Настаўнік – як эканаміст: павінен усё пралічваць – што рацыянальна, а што не. Іншы раз у мяне пытаюцца: ты карыстаешся планамі, што былі ў цябе раней? Гэта немагчыма, бо кожны клас індывідуальны. Агульная мэта любога ўрока – зацікавіць дзіця, зрабіць так, каб яно нешта зразумела і, галоўнае, хацела прыйсці яшчэ раз. Для любога настаўніка ўзнагарода, калі ўрок ужо скончыўся, а дзеці не хочуць сыходзіць, – працягвала настаўніца.

Нехта скептычна падумае: такая ўзнагарода – нешта з віртуальнай рэальнасці. Безумоўна, і дзеці бываюць розныя, і настаўнікі, між іншым, таксама. Але хто хоча, той заўсёды знойдзе.

Любоў Нілаўна Фралова з 1999 года працуе па тэхналогіі Узбуйнення дыдактычных адзінак (УДА), якую распрацаваў расійскі акадэмік педагагічных навук П.М.Эрдніеў. На Беларусі яна пакуль невядомая, таму Любоў Нілаўна – першая ластаўка. Галоўнае ў методыцы Эрдніева – творчае мысленне. Гэтая тэхналогія разлічана на дзяцей, якія, ідучы ў школу, ужо могуць лічыць да дзесяці, ведаюць літары, могуць складаць склады, таму Эрдніеў прапануе сістэматычнае прымяненне метаду супрацьпастаўлення пры вывучэнні ўзаемна-адваротных дзеянняў, аперацый і задач. Неабходна зазначыць, што пры выкарыстанні тэхналогіі Узбуйнення дыдактычных адзінак як невядомага раней псіхафізіялагічнага феномена ідзе перабудова структуры мыслення. Гэта тлумачыцца тым, што тэорыя дадзенай тэхналогіі ў сваіх навуковых вытоках узыходзіць да вучэння І.Паўлава пра ўмоўныя рэфлексы і да тэорыі адваротных аферэнтацый П.Анохіна. Пры аналізе методыкі Эрдніева ўлічваюцца даныя шматлікіх навук – філасофіі, псіхалогіі, інфарматыкі, навукі пра навучанне – дыдактыкі і фізіялогіі вышэйшай нервовай дзейнасці чалавека.

Тэхналогія УДА заснавана на простай ідэі пераўтварэння задачы, якую рашылі, у адваротную. Праз пераўтварэнне, змяненне, абагульненне, параўнанне раней пройдзенага ідзе актыўнае паўтарэнне, што па сутнасці сваёй з'яўляецца асновай трываласці ведаў. Калі казаць пра матэрыяльны бок сістэмы, то яна з'яўляецца адным з эканомных метадаў навучання. Час эканоміцца за кошт паралельна-чаргавальнага вывучэння ўзаемазвязаных паняццяў, самастойнага састаўлення вучнямі заданняў, аналагічных тым, што ёсць у падручніку. Развіваецца навык творчасці.

Іншы раз здараецца так, што, не ведаючы тэарэтычных выкладак якой-небудзь методыкі і нават не здагадваючыся пра яе існаванне і навуковае абгрунтаванне, настаўнік інтуітыўна пачынае выкарыстоўваць калі не поўнасцю, дык часткова якую-небудзь ужо даследаваную некім тэхналогію. Тут спрацоўвае вопыт. Як гэта і адбылося з Любоўю Нілаўнай:

– Да гэтай сістэмы прыйшла даўно. Калісьці ў мяне быў вельмі слабы клас, і мне даводзілася даваць матэрыял наперад, а затым увесь час паўтараць. Потым я пазнаёмілася з тэхналогіяй Узбуйнення дыдактычных адзінак. За плячыма быў ужо нейкі практычны вопыт, сякія-такія тэарэтычныя веды, моцны клас. Таму я пачала карэкціраваць свае ўрокі зыходзячы з таго, у якім класе працавала.

Вы ж вучыліся ў пачатковай школе, таму ведаеце, што ўрокі чытання – трошкі нудныя, а ў мяне зараз на гэтых уроках пануе весялосць і добры настрой. Увяла новую для вучняў тэрміналогію – інтанацыя, крыптаграма (выраз твару, эмоцыі). Напрыклад, даю заданне – пераказаць тэкст, але не проста пераказаць словамі, як гэта звычайна робіцца. Тэкст трэба разыграць, як у тэатры пантамімы. Нехта адзін з класа расказвае або чытае тэкст, а ўсе астатнія дэманструюць пачутае мімікай і рухамі. Па-першае, дзеці падчас урока знаходзяцца на эмацыянальным уздыме, па-другое, яны лепш запамінаюць. Гэта што датычыцца формы ўрокаў. Што да зместу, дык, напрыклад, на ўроку рускай мовы тэму "Назоўнік" даю поўнасцю за адзін урок. Зразумела, у форме гульні. Тлумачу, што такое назоўнік, на якія пытанні адказвае, якога роду бывае і г.д. Гэта азначае, што аб'ём даецца значна большы, чым прадугледжана праграмай пачатковай школы ў гэтым класе. Потым ідзе драбленне на блокі, якія даюцца на больш глыбокім узроўні.

Мы ўвесь час вяртаемся да таго, пра што гаварылася на першым уроку і ўвесь час паўтараем. Або табліца множання на ўроку матэматыкі. Там ідзе драбленне наступным чынам: множанне на нуль, множанне на адзінку і г.д., потым групуецца множанне, да прыкладу, чатыры на сем і тры на сем. Прымяняем законы, што вывучаюцца ў сярэднім звяне, а не ў пачатковай школе. Атрымліваецца, што матэрыял даецца ў скарочаным выглядзе. Калі праграмай і падручнікам прадугледжана асобнае вывучэнне множання на два або тры, чатыры і г.д., то нам гэта ўжо не трэба, бо мы ўжо ведаем, а вольную гадзіну можам выкарыстаць для вывучэння або шліфоўкі задач.

Дарэчы, у пачатковай школе асаблівую ўвагу неабходна ўдзяляць рашэнню задач. Гэта пацвердзіла і Любоў Нілаўна, якая вучыць дзяцей складаць задачы, адваротныя тым, якія яны рашалі раней. Калі зноў вярнуцца да тэарэтычных выкладак методыкі Узбуйнення дыдактычных адзінак, дык там гаворыцца, што на паспяховае авалоданне ўменнем рашаць задачы ўплывае не колькасць рашаемых задач, а перш за ўсё планамерная, паглыбленая праца па ўсебаковаму аналізу задачы. Перабудова прамой задачы пры захаванні сюжэта і лічбавых даных навучае пераасэнсоўваць залежнасці. У аснову тэхналогіі УДА пакладзены прынцып – каб навучыць паскорана і на высокім узроўні, неабходна разглядаць цэласныя групы ўзаемазвязаных паняццяў.

Падчас маёй вучобы ў школе мы таксама карысталіся такім метадам, але больш для праверкі і ў старэйшых класах. На ўласным вопыце пераканалася, што такі прыём праверкі або паўтарэння – вельмі эфектыўны, ён падштурхоўвае да асэнсавання і засваення матэрыялу на аснове больш высокай лагічнай ступені навучання.

А вось на ўроках рускай мовы ў пачатковай школе ў нас усё было традыцыйна – на наступным уроку паўтарэнню вывучаемага матэрыялу адводзілася некалькі хвілін. У рамках тэхналогіі УДА тэарэтычны матэрыял падаецца ўзбуйненымі, лагічна завершанымі часткамі, ідзе апора на абагульняючыя табліцы. Вышэй Любоў Нілаўна гаварыла, як яна працуе на ўроках рускай мовы. Вынік такой працы – перанос некаторых матэрыялаў са старэйшых класаў у малодшыя (тэмы "Часціны мовы", "Члены сказа", "Склад слова" і г.д.). Потым даецца магчымасць для лепшага замацавання – матэрыял увесь час паўтараецца, таму даводзіцца да аўтаматызму.

Адным са сродкаў узбуйнення ведаў з'яўляецца матрычная сістэма фіксацый вучэбнага матэрыялу па мове. Матрыца – табліца з двума ўваходамі. На такім прынцыпе пабудаваны ўсім вядомая табліца Піфагора, перыядычная сістэма хімічных элементаў Мендзялеева. Напрыклад, можна стварыць матрыцу па тэме "Члены сказа". У выніку дзеці прывучаюцца адрозніваць супрацьлеглыя паняцці і аперацыі, што з'яўляецца асновай трывалага засваення новага матэрыялу.

Падводзячы вынікі майго "даследавання" тэхналогіі Узбуйнення дыдактычных адзінак, хочацца ўсё ж такі пералічыць, традыцыйна, плюсы і мінусы гэтай методыкі. Асновай вышэйназванай тэхналогіі з'яўляецца прынцып супрацьпастаўлення, які прадугледжвае адначасовае вывучэнне ўзаемаадваротных дзеянняў і аналагічных паняццяў. Высновы па аналогіі – асноўны сродак набыцця новых ведаў дзецьмі, сродак развіцця творчага мыслення. Потым, гэта – "эканомная" тэхналогія, якая прадугледжвае магчымасць набыцця якасных ведаў.

Але, разам з тым, методыка Эрдніева – не для ўсіх дзяцей, яна разлічана на здольных і моцных. Ды і не кожны настаўнік зможа працаваць у рытме тэхналогіі УДА.

Здараецца, што не настаўнік выбірае сабе новую методыку, а методыка выбірае яго. Гэта выпадак Людмілы Нілаўны Фраловай. У час нашай гутаркі з ёй яе аповед раз-пораз перапыняўся захопленымі рэплікамі дырэктара пачатковай школы №198 Людмілы Іванаўны Урублеўскай, якая ўрэшце выпрашыла выказацца:

– Вы лепш раскажыце пра тое, што даеце шмат адкрытых урокаў на ўзроўні рэспублікі для слухачоў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі. Яе працы, – звярнулася яна да мяне, – была дадзена вышэйшая ацэнка. Калі на ўроку прысутнічаюць вопытныя настаўнікі, спецыялісты, а потым апладзіруюць... Да таго ж Любоў Нілаўна за ўкараненне тэхналогіі Узбуйнення дыдактычных адзінак атрымала грант Мінгарвыканкама.

**Вольга ДУБОЎСКАЯ.**

НА ЗДЫМКУ: Любоў Нілаўна Фралова.

# Каханыя жанчыны Аляксандра Сяргеевіча

***Нам дарагі кожны міг жыцця Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Сярод многіх рыс характару вялікага паэта ёсць адна, пра якую гаворыць, але звычайна не да канца. У Пушкіна трэба вучыцца пакланенню перад абаяльнымі сучасніцамі. Каханне паэта - гэта гімн усім жанчынам.***

Нас не вельмі песцяць расказамі (зразумела, тактоўнымі) пра захапленні Пушкіна жанчынамі. А гэтыя старонкі яго жыцця вартыя пяра вялікіх пісьменнікаў і паэтаў, асабліва сёння. Сярод моладзі зараз не ў пашане такія якасці, як вернасць, цнатлівасць, шчырасць, пяшчотнасць. Не часта сустрэнеш мужчыну-рыцара, які б паважліва ставіўся да жанчыны. Ды і сучасныя жанчыны далёкія ад дасканаласці. Таму па-добраму зайздросціш стасункам паміж людзьмі, якія былі ў часы вялікага Пушкіна.

Хаця паэт шмат разоў паўтараў словы кахання, яны кожны раз гучалі непаўторна, чароўна. Усхваляванаю казкай адгукаліся пяшчотныя вершаваныя радкі ў сэрцах тых, каго кахаў Пушкін, і хто адказаў або не змог ашчасліваць узаемнасцю паэта. Ва ўзаемінах мужчыны і жанчыны не было месца пошласці. Паэт не цярпеў яе.

Каханне Пушкіна заўсёды было цнатлівым, узвышаным, што ўласціва нацыянальнаму духу рускага чалавека. А калі гэтае пачуццё пакідала паэта, то і ён, і тая, што ўнушыла яму высакародную страсць, заставаліся ўдзячнымі адзін аднаму. Мы не маем права бестактоўна ўмешвацца ў асабістае жыццё вялікага паэта. Гаворка можа ісці пра высокае пушкінскае каханне. А ў вершах потым застануцца і палкасць пачуцця, і пяшчотнасць слоў, і шчасце ад той вышыні, на якую ўзняло каханне.

У 1799 годзе нарадзіўся геній рускай паэзіі Аляксандр Сяргеевіч Пушкін. З саюзу двух розных, непадобных людзей, якія горача кахалі адзін аднаго, узнікла дзівосная, загадкавая, не пазнаная да канца, сваявольная, незалежная натура вялікага паэта.

У Ліцэй Пушкін паступіў у дзіцячым узросце, а пакінуў яго праз шэсць гадоў юнаком. Там пачалося яго бурнае творчае юнацтва, там прыйшло да яго першае каханне. Пушкіну ішоў пятнаццаты год, а графіні Наталлі Качубей ледзь споўнілася чатырнаццаць. Паэт пазнаёміўся з ёй на балі ў Ліцэі. Потым былі спатканні ў парку, прагулкі на лодцы па каналу. Кароткім, але яркім было гэтае каханне. Дзяўчыну пакарыла пачуццё палкага юнака, і яна адказала ўзаемнасцю. Расстаўшыся з Наташай, пазнаўшы, што такое каханне, Пушкін стварыў лірычныя, пранікнёныя творы.

Платанічнае, сапраўды паэтычнае каханне выклікала ў Пушкіне сястра аднаго з яго ліцэйскіх таварышаў фрэйліна К.П.Бакуніна. Паэта яна ўразіла сваёй прыгажосцю. У лістападзе 1815 года Пушкін запіша ў дзённіку: "Я счастлив был! Сладкая минута встречи! Как она мила была, как черное платье пристало милой Бакуниной!" Кацярына Бакуніна пакінула прыкметны след у творчасці паэта. Ёй прысвечаны некалькі вершаў, сярод якіх такія, як "Итак, я счастлив был...", "К живописцу".

У 1817-1819 гг. Пушкін піша шмат вальнадумных вершаў. Гэта стала прычынай высылкі паэта з Пецярбурга. Яму пагражала Сібір. Дзякуючы хадайніцтву сяброў у маі 1820 года цар загадаў паэту выехаць у Екацярынаслаў у распараджэнне генерала Інзава. Ссылка пачалася з прыемнага падарожжа ў складзе сям'і генерала Раеўскага. Галоўная прывабнасць паездкі для Пушкіна была ў тым, што ён захапіўся 16-гадовай Машай Раеўскай, якую ведаў яшчэ дзіцем. Яна ператварылася ў сапраўдную прыгажуню. З разумным, бліскуча адукаваным, вясёлым Пушкіным Машы было лёгка. Сэрца яе гатова было раздзяліць з паэтам вялікае каханне. Яна да канца сваіх дзён будзе адчуваць піетэт перад яго іменем і не таіць крыўды на зменлівасць яго пачуцця, бо "Па сутнасці, ён абажаў толькі сваю музу і паэтызаваў усё, што бачыў". Само імя Маша будзе любімым у Пушкіна, ім ён назаве многіх сваіх гераінь. Пазней, калі яна, пакінуўшы бацькоў і сына, паедзе за мужам-дзекабрыстам у Сібір, Пушкін адгукнецца на гэтую горкую падзею тужлівымі радкамі. Многія свае лірычныя творы ён прысвяціў гэтай добрай, сціплай жанчыне - "Не пой, красавица, при мне...", "На холмах Грузии лежит ночная мгла". "Черты далекой бедной девы" будуць усё жыццё трывожыць сэрца вялікага паэта.

Летам 1823 года Пушкін прыбыў да графа Варанцова ў Адэсу. У першыя ж дні пасля прыезду, на адным з прадстаўленняў у тэатры Пушкін пазнаёміўся з Іванам Рызнічам, прадставіўшыся чыноўнікам канцылярыі генерал-губернатара Варанцова. Сяброўства з ім абяцала паэту шмат цікавага, бо негацыянт і тэатральны дзеяч аказаўся неардынарным чалавекам. Калі Пушкін пазнаёміўся з ім, той быў халастым, аднак хутка прывёз з Вены жонку Амалію, якая не ведала ні слова па-руску. Па водгуках сучаснікаў, Амалія была незвычайна прыгожая. Яе ўразіла ўменне Пушкіна валодаць тонкасцямі свецкай французскай мовы. Перад абаяльнасцю Амаліі многія не маглі ўстаяць. Але Пушкін хацеў да сябе выключнай увагі:

Наталля Качубей.

*Простишь ли мне*
*ревнивые мечты,*
*Моей любви безумное волненье?*
*Ты мне верна: зачем же*
*любишь ты*
*Всегда пугать мое воображенье?*

Жанчына хварэла на сухоты. Дактары прадпісалі ёй памяняць клімат. Так Пушкін назаўсёды расстаўся з ёй. У маі 1825 года ў Міхайлаўскае прыйшла вестка аб смерці Амаліі. Захапленне паэта было хоць і кароткачасовым, але моцным. Пасля яго засталіся радкі:

*Под небом голубым*
*страны своей родной*
*Она томилась, увядала...*
*Увяла наконец, и верно надо мной*
*Младая тень уже летала.*

У Адэсе ў паэта ўспыхнула трапяткое пачуццё да Елізаветы Варанцовай. Пушкін пазнаёміўся з ёй адразу ж пасля таго, як яна прыехала ў гэты горад да свайго мужа. Елізавета Ксавер'еўна праз два месяцы пасля родаў вярнулася да свецкага жыцця. Яна ладзіла незвычайныя балі, вечары, маскарады. Варанцова таксама звярнула ўвагу на Пушкіна. Узнікла ўзаемнае пачуццё. На палях рукапісу "Яўгена Анегіна", над якім паэт працаваў у той час, пушкіністы налічылі 32 профілі Елізаветы Ксавер'еўны. Яна была любімай пляменніцай усёмагутнага Пацёмкіна. Варанцова ўражвала санавітасцю. Прыгажуняй яна не была, але ніякая красуня не магла б з ёй параўнацца. Праз вялікі адрэзак жыцця Пушкіна прайшоў паэтычны вобраз Варанцовай. Пушкіністы лічаць, што яна была самым моцным захапленнем Пушкіна да знаёмства з Наталляй Ганчаровай. З 1823 па 1830 год ён прысвяціў Елізавеце Ксавер'еўне шмат вершаў. Адносіны ў Пушкіна з генерал-губернатарам Варанцовым не склаліся. Варанцоў папрасіў аб высылцы паэта з Адэсы.

Елізавета Ксавер'еўна падарыла Аляксандру Сяргеевічу на развітанне вельмі дарагі пярсцёнак і гэткі ж пакінула сабе. Пушкін адразу ж напісаў цудоўны верш:

*Храни меня, мой талисман,*
*Храни меня во дни гоненья,*
*Во дни раскаянья, волненья:*
*Ты в день печали был мне дан,*
*Когда подымет океан*
*Вокруг меня валы ревучи,*
*Когда грозою грянут тучи -*
*Храни меня, мой талисман.*

Аднак сваё каханне да Варанцовай Пушкін утойваў нават ад самых блізкіх людзей. Ён раўніва ахоўваў чыстае імя жанчыны і ўсё жыццё яе не забываў. Аляксандр Сяргеевіч ніколі не расставаўся з цудоўным падарункам Елізаветы Ксавер'еўны. Паміраючы, ён аддасць пярсцёнак Жукоўскаму. Пасля смерці Васілія Андрэевіча талісман Пушкіна пяройдзе да яго сына, які ў 1875 годзе падорыць яго Івану Тургеневу. "Я вельмі ганаруся валоданнем пушкінскім пярсцёнкам і надаю яму гэтак жа, як і Пушкін, вялікае значэнне. Пасля смерці я б жадаў, каб пярсцёнак быў перададзены графу Л.М.Талстову, з тым, каб калі надыдзе і яго час, Талстой перадаў бы яго найбольш дастойнаму паслядоўніку пушкінскіх традыцый". Паліна Віардо пасля смерці Тургенева інакш распарадзілася пярсцёнкам-талісманам: яна падаравала яго Пушкінскаму музею да 60-годдзя з дня гібелі паэта. Аднак хутка падарунак Варанцовай нехта выкраў, і сляды пярсцёнка з таго часу згубіліся.

З Ганнай Керн Пушкін пазнаёміўся ў 1819 годзе. Яна была на год маладзейшая за Аляксандра Сяргеевіча. Асабістае жыццё Керн не склалася. Яе выдалі замуж за 52-гадовага генерала, неадукаванага, грубага салдафона. Ганна зрабіла на Пушкіна незабыўнае ўражанне. Летам 1825 года, даведаўшыся, што Пушкін у Міхайлаўскім, яна прыехала да сваёй цёткі ў Трыгорскае. Пазней яна ўспамінала: "Шэсць гадоў я не бачыла Пушкіна, але ад многіх чула пра яго як пра выдатнага паэта і з радасцю чытала "Каўказскага нявольніка", "Братоўразбойнікаў". Ганна Керн знаходзілася ў Трыгорскім каля месяца і амаль кожны дзень сустракалася з Пушкіным. Ёй паэт прысвяціў, бадай, свой самы знакаміты лірычны верш:

*Я помню чудное мгновенье:*
*Передо мной явилась ты,*
*Как мимолетное виденье,*
*Как гений чистой красоты.*
*В томленьях грусти безнадежной,*
*В тревогах шумной суеты,*
*Звучал мне долго голос нежный*
*И снились милые черты...*

Сустракацца яны будуць яшчэ не раз. Керн пражыве доўгае жыццё. Памрэ ў 70 гадоў. Другі шлюб у яе будзе хоць і бедны, але шчаслівы. На могілках пад Таржком, дзе пахавана Ганна, - заўсёды жывыя кветкі як знак удзячнасці новых пакаленняў прыхільнікаў музы Пушкіна за тое, што яна натхніла генія на стварэнне шэдэўра любоўнай лірыкі.

Зімой 1826 года Пушкін прыехаў у Маскву. Ссылка нарэшце закончылася. Паэт ізноў заняў сваё месца ў вышэйшых колах. Аляксандр Сяргеевіч думае пра ўласную сям'ю, марыць пра сустрэчу з дзяўчынай, якая б раздзяліла яго мяцежны лёс. На першым жа балі паэт знаёміцца з 17-гадовай прыгажуняй Кацярынай Ушаковай. Пушкін шчыра залюбаваўся чароўнай дзяўчынай. Паэт быў запрошаны ў дом на Прэсне. Кацярына, паводле сведчанняў сучаснікаў, была сапраўднай прыгажуняй: бландзінка з попельнымі валасамі, са стройнай фігурай, разумным тварам. Асноўным заняткам дзяўчыны была мастацкая літаратура, асабліва яна захаплялася вершамі Пушкіна. З'яўленне ў яе літаратурным салоне знакамітага паэта зрабіла на ўсю сям'ю вялікае ўражанне. У доме Ушаковых Аляксандр Сяргеевіч стаў жаданым госцем. Мілыя, пяшчотныя рысы твару Кацярыны, удумлівы позірк зачаравалі Пушкіна, і хутка ён захапіўся дзяўчынай. Тая адказала яму глыбокім, самаадданым каханнем.

Аднак надышоў час пакідаць Маскву. 16 мая 1827 года Пушкін прыйшоў развітацца з сям'ёй Ушаковых. Маркотна было на душы ў паэта, але яшчэ больш пакутавала Кацярына.

Паэт не любіў дарыць свае творы. Не ўдастоіў ён такога гонару ні Варанцову, ні Керн, а Кацярыне Ушаковай у знак сваёй прыхільнасці выслаў "Полтаву", "Стихотворение" і паставіў на кніжках свой аўтограф. Збіраўся Пушкін звязаць свой лёс з Кацярынай? Хто ведае. Вядома адно: ён бачыў у ёй мілага сябра і пяшчотную сваю прыхільніцу.

Пасля сямігадовай ссылкі ў маі 1827 года паэт вярнуўся ў Пецярбург і, як у былыя часы, стаў часта бываць у сям'і прэзідэнта Акадэміі мастацтваў, дырэктара публічнай бібліятэкі А.Н.Аленіна. Малодшая дачка гаспадара салона Ганна пры першай сустрэчы не зрабіла на Пушкіна вялікага ўражання: ёй ішоў тады дванаццаты год. Калі ж паэт вярнуўся ў Пецярбург і наведаў у маі 1827 года Аленіна, то 19-гадовая Анета ператварылася ў незвычайную красуню. Яна мела тытул фрэйліны імператарскага двара.

Без перабольшання можна сказаць, што па колькасці вершаў, прысвечаных каханым жанчынам, Анета заняла б першае месца. Пушкін прысвяціў дзяўчыне такія вершы, як "Вы избалованы природой...", "Волненьем жизни утомленный...", "Предчувствие". Аляксандр Сяргеевіч нават прасіў рукі Ганны Аляксееўны, але яе маці адмовіла паэту. Усё ўзважыўшы, Аленіны, напэўна, палічылі, што Пушкін не той чалавек, за якога яны хацелі б выдаць дачку замуж.

На развітанне паэт напісаў у альбом дзяўчыны верш:

*Я вас любил: любовь еще,*
*быть может,*
*В душе моей угасла не совсем.*
*Но пусть она вас больше*
*не тревожит,*
*Я не хочу печалить вас ничем.*
*Я вас любил безмолвно,*
*безнадежно.*
*То робостью,*
*то ревностью томим;*
*Я вас любил так искренно,*
*так нежно,*
*Как дай вам бог любимой*
*быть другим.*

Не вельмі ўдала спачатку складваўся лёс Ганны Аляксееўны. Да 32 гадоў яна не змагла зрабіць добрай партыі і ў адчаі пісала ў сваім дзённіку, што застанецца старой дзеўкай. Аднак жаніх знайшоўся, і вяселле адбылося, але пасля смерці Пушкіна. Дарэчы, Ганна Аляксееўна стане добрай прыяцелькай Лермантава. Як бы склалася жыццё Пушкіна, калі б Аленіны пагадзіліся выдаць дачку за яго, цяжка прадугадаць. Але, напэўна, не было б такога трагічнага канца.

Самай яркай музай паэта стала Наталля Мікалаеўна Ганчарова. Пушкін прыехаў у Маскву ў канцы 1828 года. Ён ніяк не мог наладзіць роўнае, ціхае жыццё. Юнацтва прайшло. Да трыццаці гадоў ён спаўна зазнаў гора. Але каханне не абыходзіла паэта. Для Пушкіна каханне - гэта магчымасць яшчэ і яшчэ раз адчуць полымя ў сэрцы, наноў пазнаць вернасць, пяшчоту.

Елізавета Варанцова.

Тое, што адбывалася з ім на маскоўскім балі ў доме №22 па Цвярскім бульвары, нічога агульнага не мела з яго ранейшымі захапленнямі. Гнуткая, стройная, высокая (173 см), з рысамі мадонны, з залаціста-карымі вачыма - такой была Наталля Ганчарова. Паэта пачалі запрашаць у дом на Вялікай Нікіцкай вуліцы. Там яму было шчасліва, весела, цікава. У красавіку 1829 года ён просіць рукі Наталлі. Адказ - няпэўны, спасылаюцца на маладосць дачкі. А да Пушкіна прыйшло яркае, чароўнае каханне. Няпэўны адказ не задаволіў Аляксандра Сяргеевіча, і ў маі 1829 года ён выехаў на Каўказ.

Да вяселля з Ганчаровай Пушкін вельмі змяніўся. Ён стаў сур'ёзным, важным, якім і павінен быць чалавек, што збіраецца ўзяць на сябе адказнасць за іншую істоту. Перад вяселлем паэт паслаў Наталлі пісьмо-прароцтва, дзе, заглядваючы наперад, апісваў па-французску сваё сямейнае жыццё і прадказваў, што загіне на дуэлі.

І вось надышоў доўгачаканы міг. У раскошных вясельных санях, у суправаджэнні карэт з сябрамі маладыя пад'ехалі да царквы Святога Вазнясення. На 19-гадовай красуні-нявесце - беласнежная сукенка з доўгім шлейфам, празрысты карункавы вэлюм. Яна сапраўды само хараство. Блакітнавокі жаніх у чорным гарнітуры, белай кашулі стаіць побач. Ён крыху ніжэйшы ростам. Пушкін прымхлівы, таму напружаны. Заключаецца сямейны саюз мужчыны і жанчыны. Але якіх: ён геній паэзіі, яна незвычайная прыгажуня. Пачынаецца абмен заручальнымі пярсцёнкамі, адзін падае на падлогу. Пушкін нахіляецца, каб яго знайсці, але ад рэзкага руху пагасла свечка... Калі парадак быў адноўлены, усе заўважылі, як змяніўся ў твары Аляксандр Сяргеевіч.

Наталля Ганчарова.

Пасля вяселля Пушкін цалкам аддаўся сямейнаму жыццю, даглядаў сваю жонку, пакланяўся перад ёй. Ён пісаў: "Я жаніўся, каб мець дома Мадонну". Амаль 27 гадоў пасля гібелі Пушкіна пражыла Наталля Мікалаеўна. У сваіх успамінах унучка Ганчаровай Е.Бібікава пісала: "Бабуля была вельмі ласкавая і цярплівая. Яна ніколі не павышала голас, не выносіла хлусні, любіла дзяцей пяшчотна і клапатліва".

Сем гадоў Наталля Мікалаеўна насіла жалобу па Пушкіну і рашылася на другі шлюб толькі таму, што генерал Ланскі запэўніў не толькі ў каханні да яе, але і да чацвярых дзяцей Пушкіна. Вядомы літаратуразнаўца Благот пісаў: "У гісторыі трагічнай гібелі паэта Наталля Мікалаеўна не была віноўніцай, а ахвярай тых д'ябальскіх махінацый, тых пякельных падкопаў і пякельных путаў, якімі быў аблытаны і сам паэт. Пра яе, пра яе будучыню былі апошнія думкі і апошнія клопаты Пушкіна".

Жанчыны займалі вялікае месца ў жыцці паэта. Але, як мы ведаем з яго вершаў, яму не былі ўласцівы высакамер'е, каварства, лёгкадумнае стаўленне да цудоўнага полу. З любой страфы, прысвечанай жанчыне, відаць, што ён яе абагаўляў. Зацікаўленасць і закаханасць праходзілі, а геніяльныя творы, выкліканыя імі, заставаліся навечна. Калі б не было гэтых дзівосных жанчын, не было б элегій, паэм і іншых цудоўных твораў паэта. Мы павінны быць удзячнымі ім за тое, што яны натхнялі паэта на стварэнне шэдэўраў.

Пушкін быў прыгожы душой. Навука аб прыгожым сёння сцвярджае, што Аляксандр Сяргеевіч быў самым гарманічным чалавекам усіх часоў і народаў.

**Алена ПАЦЁМКІНА,**
**настаўніца рускай мовы і літаратуры Сласцёнаўскай школы-сада Чавускага раёна.**

